


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!* ***Францішак БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА

№ 38(48) • 6—12 ЛІСТАПАДА 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



Сем гадоў у Навагрудскай гімназіі. Стар. 2.

*«Ці не з роднага слова пачынаецца нацыянальная свядомасць?»* *Стар. 3.*

*«Ужо жыта палавее, у гультая сэрца млее...»* *Стар. 4.*


## Поступ тыдня

**«ЗМАГАЦЦА ЗА РЭАЛЬНЫ СУВЕРЭНІТЭТ НАШАЙ РЭСПУБЛІЦЫ ДАВЯДЗЕЦЦА ЯШЧЭ ВЕЛЬМІ І ВЕЛЬМІ ШМАТ»,— ЗАЯВІЛІ КІРАЎНІКІ БСДГ НА НЯДАЎНЯЙ КАНФЕРЭНЦЫІ СВАЕЙ МЕНСКАЙ ФІЛІІ. А па словах А. Трусава, намесніка старшыні Цэнтральнай Рады, «калі да зімы ўрад Кебіча, нязддольны на рашучыя крокі, не знікне з палітычнай арэны, вясной Беларусь пойдзе па шляху рэвалюцый».**

***ПАДПІСАНА МІЖУРАДАВАЕ ПАГАДНЕННЕ АБ ГАНДЛЁВА-ЭКАНАМІЧНЫМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ МАЛДОВАЙ І БЕЛАРУССЮ.***

**«ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ АХВЯРАМ БАЛЬШАВІЦКАГА ТЭРОРУ»,— ТАКІ НАДПІС ЗРОБЛЕНЫ НА МЕМАРЫЯЛЬНЫМ ЗНАКУ, УСТАНОЎЛЕНЫМ УДЗЕЛЬНІКАМІ МІТЫНГУ-РЭКВІЕМА КАЛЯ БУДЫНКА РЭСПУБЛІКАНСКАГА КДБ. З мітынгу пачаўся дзень памінання продкаў — «Дзяды», які быў адзначаны сёлета 2 лістапада. А першы раз урачыстае святкаванне «Дзядоў», старадаўняга народнага абраду, праводзілася тры гады назад 30 кастрычніка і закончылася памятным разгонам міліцыяй.**

**ЯК І Ў МАСКВЕ на Краснай плошчы, у Менску на плошчы імя Леніна гарадскія ўлады забаранілі праводзіць якія-небудзь мітынгі 7 лістапада. Дазволена сабрацца людзям і пагаварыць пра гістарычную падзею ў парках імя М. Горкага і імя Я. Купалы.**

***«ПАКУЛЬ ЁСЦЬ ПРЭЗІДЭНТ КРАІНЫ, МЫ БУДЗЕМ ЯМУ ПАДПАРАДКОЎВАЦЦА»,— АБ'ЯВІЛІ ВАЙСКОЎЦЫ НА НЯДАЎНЯЙ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ Ў МЕНСКУ. А як жа быць з нацыянальнай арміяй? Расходы на яе, згодна з іх думкай, рэспубліка не «пацягне».***

**НА ТЭРЫТОРЫІ СТАДЫЁНА «ДЫНАМА» АДКРЫЎСЯ РЭЧАВЫ РЫНАК. ЦІ НЕ ПРАВОБРАЗ ГЭТА ТАГО РЫНКУ, ПРА ЯКІ СЕННЯ СТОЛЬКІ РАЗМОЎ?**

## МІЛАСЭРНАСЦЬ



«Аўстрыя дапамагае СССР» — такі надпіс зроблены на кожнай з дзвюх тысяч скрынак, якія прыбылі ў Гомель з Вены. Кошт адной такой 25-кілаграмовай пасылкі — 100 долараў. У ёй — харчы, што выраблены фірмай натуральных прадуктаў «Перлінгер» (Аўстрыя), і дарагія медыкаменты. Гэта, напрыклад, масла святаянніку, кветкі для якога сабраны пастухамі ў высакагорных раёнах Грэцыі і па даўняй традыцыі настоены на чыстым аліўкавым алеі, кітайскі бальзам, марскія вітамінныя водарасці, якія растуць толькі ў некаторых кутках нашай планеты.

Прыйшлі пасылкі па лініі царквы хрысціян-адвентыстаў сёмага дня. І, як сказаў прадстаўнік міжнароднай хрысціянска-гуманітарнай арганізацыі «Уорлд Віжн» пан Ерген Хейнрых, ёсць рашэнне аб аказанні гэтай дапамогі на працягу трох год.

Размяркоўваюцца пасылкі царквой па спісах дзецям, якія стаяць на ўліку ў гарадскіх медыцынскіх установах і якім асабліва патрэбна такая дапамога.

У час сваёй акцыі міласэрнасці Ерген Хейнрых наведаў дзіцячае гематалагічнае аддзяленне Гомельскай абласной бальніцы і артапедычнае 3-й гарадской бальніцы. Усім пацыентам гэтых лячэбных установаў былі ўручаны падарункі ад аўстрыйскіх хрысціян.

**На здымку:** у час наведвання Е. Хейнрыхам гематалагічнага аддзялення Гомельскай абласной бальніцы.

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА. (БЕЛТА).

Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма БАГДАНОВІЧА

## Музей Багдановіча ў Яраслаўлі

18 кастрычніка ў Яраслаўлі адбылося адкрыццё Дома-музея Максіма Багдановіча. Намеснік старшыні Яраслаўскага гарвыканкама спадар Кавалёў у сваім выступленні сказаў, што не вельмі проста было ў наш складаны час узяцца за рэстаўрацыю дома, у якім з 1908 па 1916 год жыў і працаваў Максім Багдановіч. Праведзена вялікая работа, але яшчэ не ўся, каб музей стаў сапраўдным цэнтрам беларускай культуры ў Яраслаўлі.

Алесь Бяляцкі, дырэктар музея Максіма Багдановіча ў Менску, выступаючы перад яраслаўцамі, выказаў ім вялікую ўдзячнасць за захаванне дома, у якім Максімам Багдановічам было напісана шмат твораў, што сталі класікай беларускай літаратуры. Думаючы пра экспазіцыю, стваральнікі музея не забыліся і пра багатую культуру Яраслаўля пачатку дваццатага стагоддзя.

У сваім выступленні Анатоль Белы, старшыня клуба «Спадчына», перадаў жыхарам Яраслаўля ад беларусаў, якія жывуць у Амерыцы, вялікую ўдзячнасць за музей Багдановіча. Амерыканскія беларусы сабралі грошы на помнік паэту, і гэты помнік у хуткім часе стане на тым месцы, дзе вучыўся Максім, ля былой мужчынскай гімназіі,— цяпер тут універсітэт.

Свята адкрыцця Дома-музея закончылася наведваннем гістарычных мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю Максіма Багдановіча.

В. Ш.

### АДВАКАТЫ БЕЗ АБАРОНЫ

Адвакаты заклікаваны абараняць любога грамадзяніна краіны. А хто ў цяжкую гадзіну абароніць саміх адвакатаў? Пакуль што, аказваецца, ніхто. Таму і вымушаны яны былі пайсці на крайнюю меру — забастоўку, пратэстуючы перш за ўсё супраць непасільных падаткаў на іх ганарары. Неабароненасць абаронцаў? Гэта выклікае асаблівую трывогу...

А.С.

## Выдатніца



Наташа Бусел займаецца ў пятым класе Дубровенскай сярэдняй школы Светлагорскага раёна. Адзнакі, якія атрымлівае дзяўчынка на ўроках беларускай мовы і літаратуры, толькі выдатныя.

Фота М. ХАМЦА.

## Мір і дабрабыт на Беларусі — клопат агульны

*Удзельнікі Першага з'езда Беларускага згуртавання вайскоўцаў прынялі Зварот да Вярхоўнага Савета Рэспублікі, палітычных партый і ўсяго народа Беларусі.*

«У цяжкі і адказны для нашай Бацькаўшчыны час,— гаворыцца ў Звароце,— мы, беларускія вайскоўцы, вымушаны сказаць і сваё слова. Мы звяртаемся да народных дэпутатаў, палітычных дзеячоў, усіх людзей Беларусі.

Зноў вырашаецца лёс нашага Краю. Палітычны і эканамічны хаос, усё больш ахапляючы былую сацыялістычную сістэму, смяротна пагражае і нашай шматпакутнай рэспубліцы. Шаноўныя дэмакраты і кансерватары, камуністы і антыкамуністы, людзі Беларусі, будзьце пільнымі, адкіньце старыя крыўды. Хай родная зямля дасць вам сілу і розум усведаміць, што наш шматпакутны народ мае, можа, апошні шанц свайго нацыянальнага Адраджэння. Трэба зрабіць усё, каб забяспечыць мір і спакой на Беларусі, даць магчымасць нашаму таленавітаму, працавітаму народу хутчэй дасягнуць эканамічнага і палітычнага прагрэсу і ўпэўнена крочыць у дваццаць першае стагоддзе ў сям'і цывілізаваных народаў свету. Адной з умоў гэтага з'яўляецца зараз стварэнне Рэспублікай уласнай сістэмы абароны і бяспекі.

Мы, беларускія вайскоўцы,— гаворыцца далей у Звароце,— сумленна служылі краіне пад назвай Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, таму што гэта была і наша краіна. Зараз, калі Савецкі Саюз распадаецца, кожнаму трэба рабіць свой выбар. Дзесяткі тысяч ураджэнцаў Беларусі вайсковая служба раскідала па велізарных абшарах Еўропы і Азіі. Розны ў нас лёс, розныя палітычныя погляды, але ёсць адно, што яднае нас усіх, ад салдата да генерала,— гэта шчырая і незгасальная любоў да сваёй Бацькаўшчыны. Дзе б мы не праходзілі службу, але праз гады і далі нясём у сэрцы часцінку маці-Беларусі.

Мы заяўляем, што былі і заўсёды будзем са сваім народам і гатовыя прысягнуць на вернасць нашаму бел-чырвона-беламу сцягу».

